# РОЗДУМ ЛЯ ТЭЛЕВІЗАРА

(Заканчэнне. Пачатак на 1 стар.).

ад выпадку да выпадку. І, відаць, мала таго, што той ці іншы паэт выступіць з чыткай сваіх вершаў. Вершы трэба яшчэ прачытаць на высокім мастацкім узроўні, што не кожнаму паэту пад сілу. Значыць, для чыткі вершаў трэба запрашаць артыстаў, а яшчэ лепш — выхоўваць сваіх майстроў мастацкага чытання.

Калі беларускае паэтычнае слова ўсё часцей і часцей гучыць з экрана тэлевізара, дык вельмі рэдка гледачы знаёмяцца з беларускай прозай. Тут студыя апынулася перад больш складанай задачай. Верш прачытаць з тэлеэкрана яшчэ можна. Прачытаць жа апавяданне, урывак з рамана ці аповесці бадай нельга. Гледачы асабліва пераканаліся ў гэтым у перадачы 8 студзеня, калі артыстка Г. Арлова чытала апавяданне «Познія палыны» В. Віткі. Артыстка прачытала яго проста са старонак часопіса «Полымя», без адрыву вачэй ад тэксту і слухаць яе было цяжка. А само па сабе апавяданне добрае. Значыцца, не знойдзена форма перадачы. І наадварот. З якой цікавасцю глядзелася перадача «Беларуская прыказка», з якой выступаў 12 студзеня кандыдат філалагічных навук Ф. Янкоўскі. Свабодна валодаючы матэрыялам, Ф. Янкоўскі проста гутарыў з гледачамі, устанавіўшы з імі жывы сардэчны кантакт. Можа і апавяданні так трэба расказваць, не чытаць, а расказваць, як гэта робяць лепшыя майстры мастацкага слова Качаран, Аксёнаў, Андронікаў і інш.?

У калектыве Маскоўскай тэлестудыі ўзнікла цікавая ідэя арганізацыі «Літаратурнага тэатра». Артысты гэтага тэатра без грыму і дэкарацыі «разыгрываюць» інсцэніроўку, п'есу. Можа варта і нашай тэлестудыі падумаць над такой формай літаратурных перадач, бо не заўсёды пад сілу паставіць тэлеспектакль з вялікай колькасцю акцёраў, са складанай дэкарацыяй, шумавым і музычным афармленнем, тым больш, што студыя не мае сваёй тэатральнай групы (дарэчы, вельмі патрэбнай).

Так ці інакш, перадача літаратурных твораў па тэлевізару чакае яшчэ свайго творчага вырашэння.

Лягчэй з драматургіяй. П'есы звычайна ставяцца на сцэнах тэатраў, і любы спектакль можна паказаць або непасрэдна са сцэны, або з тэлестудыі. Гэта з поспехам і робіцца. Можна, нарэшце, тую ж п'есу паставіць і ў тэлестудыі лепшымі сіламі не аднаго, а некалькіх тэатральных калектываў. Што таксама робіцца, але чамусьці занадта рэдка.

Але і тут ёсць свае цяжкасці і нявырашаныя праблемы. Пастаноўка п'есы, напрыклад, патрабуе велізарных намаганняў калектыву студыі, бо акцёры, занятыя ў сваіх тэатрах на рэпетыцыях і ў спектаклях, вельмі мала маюць вольнага часу для ўдзелу ў тэлевізійным спектаклі. Студыя вымушана прыстасоўваць сваю работу да тэатра і таму пастаноўка самага звычайнага тэлеспектакля расцягваецца на доўгі час. А гэта робіць пастаноўку дарагой, а самае галоўнае — творча непаўнацэннай, бо марудныя тэмпы работы ахаладжаюць і акцёраў і рэжысёра. І самае крыўднае: усе творчыя і матэрыяльныя затраты робяцца толькі дзеля аднаго паказу. Спектакль у тэатры можа паказвацца неабмежавана, па тэлевізару — толькі адзін раз. Нельга разлічваць на выключэнне, калі гледачы настойліва могуць патрабаваць паўторнага паказу, які ў сваю чаргу раўналежны амаль новай пастаноўцы.

Значыць, найбольш рэальная і практычна мэтазгодная форма перадачы спектакляў — гэта перанесці ў студыю са сцэны гатовы спектакль або трансліраваць яго з тэатра. І то не кожны. Нельга, на маю думку, паказваць па тэлевізару вялікія, маштабныя спектаклі, такія, напрыклад, як «Аптымістычная трагедыя» ці «Далі неаглядныя» без таго, каб яны не страцілі свайго сцэнічнага багацця. Тэлеэкран патрабуе сваёй драматургіі. З большай цікавасцю глядзяцца спектаклі так званыя камерныя, з глыбокім псіхалагічным зместам і з малой колькасцю герояў. Вельмі прыемна, калі на экране мы бачым не масоўку, а трох, двух, а то і аднаго героя. Затое мы бачым яго вочы, твар, адценні эмоцыі, чуем не толькі яго слова, але і інтанацыю. Мы быццам у душу яго глядзім. Гэта цяжка заўважыць са сцэны, тым больш пры складаных і шматлюдных мізансцэнах. Гэта — прывілегія тэлеэкрана, яго спецыфіка.

Мінская студыя аднойчы паставіла п'есу «Якаў Багамолаў» Горкага (рэжысёр М. Співак). На сцэне гэтая п'еса, як вядома, не мела значнага поспеху. І толькі ў тэлеспектаклі нечакана раскрылася яе ўнутранае багацце, калі мы «буйным планам» пачулі горкаўскае слова, яго падтэкст, проста перад сабой убачылі вочы і душы горкаўскіх герояў.

На тэлеэкране цяжка заўважыць другі, тым больш трэці планы, якія ёсць у тэатральных спектаклях і кінафільмах. Тэлепастаноўкі — гэта мастацтва «першага», а то і «буйнага» планаў. І не кожная п'еса, не кожны літаратурны твор прыдатны для тэлепастаноўкі.

Таму можна зразумець настойлівыя намаганні нашага тэлебачання стварыць тэледраматургію, прыцягнуць да гэтай справы пісьменнікаў.

Так, гэта справа пісьменнікаў. І ў першую чаргу — драматургаў, якім бліжэй жывое сцэнічнае слова. І можа не трэба баяцца, што тэлеспектакль жыве толькі адзін вечар. Яго адразу будуць глядзець больш двухсот тысяч чалавек. Тэатру трэба паказаць спектакль больш чатырохсот разоў, каб яго паглядзела такая колькасць гледачоў. Гэта самы высокі «тыраж» і для празаікаў, аб якім ён толькі можа марыць.

Пісаць для тэлевізара — вялікая і пачэсная задача пісьменніка. Тут яго чакае самая шырокая пасля радыё аўдыторыя чытачоў. І сёння, калі наша тэлестудыя шукае новыя магчымасці і формы перадач, дапамога пісьменнікаў асабліва неабходная.

Калектыў жа Мінскай тэлестудыі мусіць лічыцца яшчэ і з тым, што неўзабаве Мінск будзе падключаны да рэлейнай лініі, якая дасць магчымасць прымаць Маскву і іншыя тэлевізійныя цэнтры.

Калі да таго часу змест і формы нашых тэлеперадач не стануць больш цікавымі, гледачы часцей будуць пераключаць тэлевізары на іншыя каналы, і Мінская студыя можа страціць многа сваіх «падпісчыкаў».

Значыць, спатрэбяцца вялікія сумесныя намаганні Саюза пісьменнікаў, Саюза кампазітараў і Саюза журналістаў, каб наша тэлестудыя вытрымала творчае спаборніцтва і засталася б для гледачоў студыяй «першага канала».

# Б. Платонаў у заслонаўцаў

Бываюць падзеі, якія надоўга застаюцца ў памяці. Калі нават праз многа год чалавек успомніць пра іх, яго агорне пачуццё радасці, асветленае водбліскамі былой усхваляванасці. Такое пачуццё застанецца напэўна ва ўдзельнікаў драматычнай самадзейнасці ад вечара 29 студзеня, бо ён быў поўны сапраўднага творчага натхнення.

Аршанцы сабраліся ў гэты вечар у клуб павіншаваць мясцовы, старэйшы ў рэспубліцы, самадзейны калектыў з прысваеннем ганаровага звання Народнага тэатра. Такому аншлагу можна пазайздросціць — гледачы запоўнілі нават праходы паміж крэсламі, стаялі, прытуліўшыся да сцяны, у аркестр прабраліся спачатку спрытныя хлапчукі, а пасля і дарослыя.

Урачыстую падзею адзначалі спектаклем «Канстанцін Заслонаў» — традыцыйнай пастаноўкай для калектыву. Сярод удзельнікаў яго нямала былых партызан, баявых сяброў легендарнага дзядзі Косці. Прыехала многа гасцей з Мінска, з Віцебска, з іншых народных тэатраў, але самымі дарагімі былі купалаўцы — рэжысёр К. Саннікаў і артыст Б. Платонаў. Уласна кажучы, яны не былі гасцямі, а непасрэднымі ўдзельнікамі свята.

Ніхто не дзівіўся, калі бачыў сярод гледачоў А. Снытко, выканаўцу галоўнай ролі ў спектаклі аршанцаў, бо ролю Заслонава сёння іграў Б. Платонаў.

Народны артыст СССР выступае ў Народным тэатры! Цяжка знайсці лепшы прыклад сапраўднай творчай дапамогі.

Вечар пачаўся з урачыстай часткі. Гарачымі воплескамі сустракалі ў зале прывітанні новаму Народнаму тэатру ад партыйных, савецкіх і прафсаюзных арганізацый. Чатырнаццаць чалавек з калектыву атрымалі пасведчанне артыста Народнага тэатра. Было выказана многа цёплых слоў і шчырых пажаданняў. Званне Народнага тэатра — гэта не толькі ацэнка заслуг калектыву, але і нялёгкі абавязак, які патрабуе ўпартай працы над павышэннем майстэрства выканання, агульнай культуры спектакля.

Дзень гэты быў поўны радаснага хвалявання. Пачалося яно яшчэ ў час рэпетыцый, якія праводзіў К. Саннікаў, і моцна трымала ў сваіх руках да канца спектакля. Па-рознаму праяўлялася яно ва ўчынках і словах. Хто, кінуўшы папяросу ,адразу цягнуўся да наступнай, хто жартаваў з самога сябе, а нехта мітусліва хадзіў па пакоі. Па стрыманых, засяроджаных рухах Б. Платонава можна было зразумець, што і ён хвалюецца. Няхай ролю Заслонава ён іграе даўно, і за яго плячыма многа сыграных спектакляў, але такога, як сёння, яшчэ не было. На тварах усіх чыталася адно жаданне — каб добра прайшла пастаноўка.

І яна прайшла добра. Выдатнае майстэрства і мастацкі такт дазволілі Б. Платонаву арганічна ўвайсці ў спектакль, дапамагчы яго ўдзельнікам знайсці верны тон, патрэбны рытм у сцэнах з Заслонавым. Разам з вядомым артыстам выступалі рабочыя і служачыя, для якіх тэатр не прафесія, а захапленне. Але сёння і яны былі роўныя, бо разам вырашалі адну творчую задачу.

Падзеі п'есы блізкія многім удзельнікам спектакля, якія і працавалі разам з Заслонавым, і змагаліся з ім у гады вайны. Таму яны ўкладваюць у выкананне роляў многа свайго асабістага, перажытага, і вобразы п'есы выглядаюць надзвычайна жыццёвымі і верагоднымі. Такія Крушына (машыніст паравознага дэпо А. Сікорскі), Кропля (дзяжурны па парку М. Матросаў), Нейгауз (цеплатэхнік І. Салтановіч) і інш.

Калі скончыўся спектакль, яго ўдзельнікі горача падзякавалі Б. Платонаву і К. Саннікаву за сапраўдную і дзейсную сяброўскую дапамогу і звярнуліся да іх з просьбай і надалей не забываць пра Народны тэатр.

Выступленне вядомага артыста на самадзейнай сцэне — падзея, якая прынамсі ў нашай рэспубліцы не мела яшчэ прэтэндэнта. Але яе значэнне, думаецца, выходзіць за межы адной падзеі. Гэтым зроблены яшчэ адзін крок у развіцці Народнага тэатра, у павышэнні яго майстэрства. Хацелася б, каб гэта выступленне майстра сцэны разам з самадзейнымі артыстамі не засталося адзінкавым, а стала б першай ластаўкай самай шырокай дапамогі самадзейнасці, нагляднай і дзейснай перадачы ім вопыту прафесіянальнага тэатра.

Народныя тэатры называюць спадарожнікамі прафесіянальнага тэатра. Няхай жа на яго арбіту часцей выходзяць тыя, ад якіх у многім залежыць далейшы плённы рух і рост аматарскіх калектываў.

**А. САННІКАЎ.**

**На здымку:** сцэна са спектакля. Злева направа (на першым плане)—Кропля (артыст **М. Матросаў**), Аксаніч (**М. Шацянкоў**), Аня (**Н. Каўшова**), Крушына (**А. Сікорскі**), Заслонаў (народны артыст СССР **Б. Платонаў**).

Фота аўтара.

ТВОРЧАЯ ТРЫБУНА

# ГЛЫБЕЙ РАЗУМЕЦЬ СУЧАСНАСЦЬ

Спрэчкі аб тым, як разумець праблему сучаснасці, — характэрная адзнака сённяшняга літаратурнага жыцця. У гэтых спрэчках даволі часта выказваецца трывога, ці не занадта прыглушваецца грамадская праблематыка ў творах, што пішуцца на маральна-этычную тэму. Бо сёння літаратура актыўна ўзнімае маральна-этычныя праблемы. Асабліва многа з'явілася так званых «твораў пра каханне».

Няўжо на нашых вачах узмацняецца тэндэнцыя пацяснення грамадскай праблематыкі і адмаўлення ад сацыяльна-гістарычнага асэнсавання жыцця? Не, і яшчэ раз не. Між тым Ул. Карпаў у артыкуле «Нужны единые усилия» («Литературная газета» № 12, 1960) спалохаўся, што некаторыя новыя беларускія аповесці (у тым ліку «Данута» А. Карпюка і «Апошняя сустрэча» Я. Брыля), напісаны аб каханні. Страх дарэмны. Беларуская літаратура не збіраецца саступаць з грамадзянскіх баявых пазіцый. А ў тым, што чалавек стаў часцей паказвацца дома, у будзённых клопатах, з інтымным жыццём і бытавымі імкненнямі, ёсць свая заканамернасць, ці сваё апраўданне. Сёння наша мастацкая проза знаходзіцца на такім этапе развіцця, калі на звычайным, прыватным яна здольна выразна і пераканальна паказаць адзнакі часу, раскрыць грамадскі змест людскіх жаданняў.

Вядома, пісьменнік згодна сваёй задуме і творчым схільнасцям раскрывае характары людзей, ці аддаючы пераважную ўвагу асабістаму жыццю герояў, ці іх грамадскай, працоўнай дзейнасці. Часцей за ўсё ён выбірае спалучэнне абодвух планаў. Галоўнае ў тым, каб было сказана аб сучаснасці нешта новае, цікавае і важнае для ўсіх.

Цяжка падзяліць сум крытыка Я. Герцовіча, калі ён шкадуе, што «наша літаратура яшчэ рэдка звяртаецца да маральных праблем» (артыкул «Чалавек і калектыў», «Полымя» № 10, 1959). Справядлівым будзе якраз адваротнае. Большасць празаічных твораў апошніх год маюць маральныя канфлікты. Незадаволенасць узнікае з іншай прычыны. Гэтыя канфлікты рэдка перадаюць сапраўдныя супярэчнасці маральнага жыцця ў нашым грамадстве. Часта старыя сюжэты, старыя калізіі жывасілам уціскаюцца ў творы аб сучасніках, падстаўляецца толькі, нібы дэкарацыя, сучасны фон, ды і той прыблізны, невыразны.

Між тым характар наогул не можа быць жыццёвым, калі сюжэтнае развіццё не адпавядае рэчаіснасці, становіцца самамэтай, чыста літаратурнай канструкцыяй. Няма праўды жыцця — прападае і цікавасць да мастацкай рэчы. Каб цікавасць не страцілася, звяртаюцца да розных нечаканасцей, незвычайных выпадкаў у чалавечым лёсе. На шчасце, у беларускай прозе любоўны раман не ператварыўся ў прыгодніцкі «баявік», накшталт белетрыстыкі пра шпіёнаў ці злодзеяў. Але рэзкія і неапраўданыя павароты, розныя нечаканасці падрываюць жыццёвасць любоўнай лініі ў некаторых раманах («Над Нёманам» Ул. Дадзіёмава і інш.).

Разам з тым, не ўсялякая праўдзівасць сюжэтнай асновы забяспечвае поспех твора. Бывае, апісваюцца такія нязначныя, хоць і праўдзівыя факты, што твор успрымаецца як «безыдэйны» — у ім няма аўтарскай думкі. А калі нейкая думка і ёсць, то вельмі дробязная, агульнавядомая, абстрактная, як напрыклад: «Лепш жыць сумленна, чым несумленна», «нельга здраджваць мужу ці жонцы» і г. д.

Наўрад ці магчыма патрабаваць ад кожнага твора, напісанага на сямейна-бытавую ці любоўную тэму, разгорнутай грамадскай філасофіі. У апавяданнях М. Лупсякова і І. Навуменкі многа мастацкіх малюнкаў, у якіх цяжка адшукаць выразны філасофскі падтэкст, але яны цікавыя своеасаблівым падыходам пісьменнікаў да выбраных падзей — спачувальна-іранічным, ці радасна-захапляючым. Ну як не палюбіць трохгадовага хлопчыка Кузю з апавядання І. Навуменкі «Пераломны ўзрост»: «Кузя лез за стол разоў дзесяць у дзень: ён снедаў, абедаў і вячэраў па чарзе з кожным, хто прыходзіў у хату. Кузя і цяпер, мабыць, чакаў мяне, каб павячэраць у трэці раз». Многа праўдзівых і новых бытавых назіранняў таксама ў апавяданні І. Навуменкі «Да зораў». Чаго варта адно абыгрыванне лозунга «Няхай жыве незалежная Гана!» Але таму ж самаму аўтару належаць апавяданні «Прыпяцкая зона», «Вяселле ў Палыкавічах», дзе адлюстраваныя падзеі маюць малую эстэтычную прывабнасць. Даволі пісьменніку не ўлавіць выразна таго асаблівага, толькі яму бачнага «свячэння» жыццёвага матэрыялу, як твор губляе мастацкую сілу. Прападае вясёлая насмешлівасць І. Навуменкі, зачараванне прыгажосцю ператвараецца ў сентыментальную рыторыку (канцоўка апавядання «Прыпяцкая зона»), апісанае — занадта шэрае, незаймальнае, нязначнае.

Нават правільнае вырашэнне маральнай праблемы, калі яно даецца па абстрактнай агульначалавечай схеме і не адлюстроўвае рэальныя рысы ў маральным развіцці грамадства, мае абмежаваную ідэйна-эстэтычную вартасць, бо чалавек не выяўляе ўсяго сябе, вельмі важныя бакі яго душы застаюцца нераскрытымі. Адчуваючы гэта, некаторыя пісьменнікі імкнуцца даць грамадскую характарыстыку сваіх герояў — прымушаюць іх разважаць аб міжнародным становішчы або на прафесіянальныя тэмы. Толькі сацыяльнага гучання вобразы ўсё роўна не набываюць, калі змест размоў выпадковы і ў іх нічога няма ад жыццёвай неабходнасці.

Прынцып «гэтак бывае» яшчэ не азначае вялікай праўды жыцця. У аповесці Ал. Карпюка «Данута», за рэдкім выключэннем, пераканальныя сітуацыі і жыццёвыя канфлікты. Але ўсё такі пісьменнік задавальняецца праўдападобнасцю мастацкага малюнка, бо ён апавядае незвычайную, у нейкай ступені рамантычную гісторыю кахання. Апісваюцца выступленні падпольшчыкаў, некаторыя падзеі з гарадскога жыцця, але яны складаюць фон, прызначэнне якога даць прастору любоўнай лініі, аздобіць яе вонкава. Толькі ён, гэты фон, нічым не дапаўняе саму гісторыю кахання. Яна так і застаецца рамантычнай гісторыяй, якую выпадкова давялося перажыць юнаку. Хоць аповесць «Данута» — відавочнае дасягненне пісьменніка, але ён не здолеў яшчэ эмацыянальна-пачуццёвае жыццё сваіх герояў паказаць у сацыяльным асвятленні. Можна ад душы парадавацца за героя, што яго пакахала такая цудоўная дзяўчына, як Данута, можна нават пазайздросціць яму, што ён перажыў столькі радасных і незабыўных хвілін. Але калі задумацца, чым лёс героя можа ўзбагаціць наш жыццёвы вопыт, на якія думкі навядзе, падштурхне да якіх высноў, то адказ на гэтыя пытанні будзе вельмі няпэўны.

Прыклад «Дануты» зусім не сведчыць, што інтымнай тэме супрацьпаказаны глыбокі сацыяльны змест.

У адзін і той жа час былі надрукаваны апавяданне В. Быкава «На сцяжыне жыцця» («Радасць») і аповесць Я. Брыля «Апошняя сустрэча» («Расчараванне»). Абодва творы — пра каханне. Аднак разам з тым сацыяльна-псіхалагічны воблік герояў вельмі выразны. Іх імкненні, паводзіны, пачуцці — не адвольная выдумка аўтараў. На ўсім даюць сябе знаць асаблівасці характараў, якія склаліся ў пэўную эпоху.

Кожны пісьменнік па-свойму раскрывае тое асаблівае ў духоўным складзе чалавека, што робіць яго тыповай фігурай часу. Калі б В. Быкаў паказаў толькі, як Прузына пакахала жанатага чалавека і стала маці, то ён перадаў бы яшчэ адну не зусім звычайную, але малазначную гісторыю. Што ж, магчыма, бываюць гэтакія здарэнні. Прузыніны трывогі і радасці сталі нечым большым, чым частка ўласнага жыцця. Яе жаданне быць такой, як усе людзі, раптам сутыкаецца з адкрытай варожасцю абыякавых людзей, якія перастаюць быць пасіўнымі, як толькі парушаюцца ўстаноўленыя імі этычныя правілы. У развіцці гэтага канфлікту і рэалізуецца аўтарская задума — апраўдаць чалавека, які імкнецца да заслужанага шчасця. Калі ізаляваць гераіню ад людзей, якіх яна маральна перамагае, то і апраўданне будзе непатрэбным, а гэта значыць знікне мастацкая ідэя і апавяданне перастане быць сапраўдным мастацкім творам.

У аповесці Я. Брыля наадварот. Тое, што сталася з галоўным героем, застаецца ў тайне, не атрымлівае амаль ніякай ацэнкі. Лёня Жывень хацеў расказаць аб сваёй бядзе добраму таварышу, старшыні калгаса, ды так і не асмеліўся зрабіць гэта. Сацыяльная сутнасць канфліктаў і характараў выяўляецца тут іншым шляхам. За лёсам герояў Я. Брыля блізка стаіць агульнанародны лёс, уважліва прасочаны ў важнейшых момантах. Гістарычныя падзеі настолькі адчувальна закранаюць жыццё герояў, што ў многім прадвызначаюць іхняе будучае. Гэтак пісьменніку ўдаецца вельмі шырока раскрыць чалавечую душу, тыя змены і адзнакі, якія выкліканы грамадскімі ўмовамі.

У заслугу Я. Брылю варта паставіць тое, што ён, смела адкідаючы стандарты, павярнуўся тварам да жыцця і адтуль узяў свайго героя. Лёня Жывень — выразна акрэслены псіхалагічны тып, які склаўся ў пэўны перыяд. Асаблівасці яго свядомасці абумоўлены асаблівасцямі перажытага часу. Сапраўдная сутнасць асобы героя раскрываецца не толькі ў яго ўчынках, не толькі ў духоўным капітале, здабытым у сур'ёзных душэўных выпрабаваннях, але і ў яго лёсе наогул, у асноўным кірунку яго жыццёвай лініі. І калі гаварыць аб тым, сучасны характар перад намі ці не, то недастаткова ўлічваць знешнія сувязі героя з сучаснасцю, хоць і гэта патрэбна. Неабходна таксама вызначыць, наколькі поўна адбіліся на яго духоўным складзе важнейшыя тэндэнцыі часу.

На першы погляд можа здацца, што аповесць «Апошняя сустрэча»— твор толькі аб каханні. Сапраўды, сюжэт тут любоўны. Напярэдадні вайны вясковы хлопец Лёня пакахаў малодшую дачку суседніх памешчыкаў Расіцкіх. Сустрэча ў час вайны не зблізіла іх, перашкодзілі

(Заканчэнне на 3-й стар.).

Мяжырыцкі сельскі Дом культуры—адзін з перадавых у Зельвенскім раёне. Ім загадвае важак камсамольскай арганізацыі брыгады калгаса «Бальшавік» Нэла Калюта. Пры Доме культуры ёсць і бібліятэка. Тут прапагандыстам кнігі працуе С. Трафімовіч. Бібліятэка наладзіла адкрыты доступ чытачоў да кніжных паліц. Пакоі Дома культуры і бібліятэкі маляўніча афармлены цікавай і змястоўнай нагляднай агітацыяй, якая расказвае пра сямігадовы план краіны, рэспублікі, раёна і роднага калгаса. Цяпер актывісты Дома культуры і бібліятэкі вядуць прапаганду рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС.

**На здымку: С. Трафімовіч** (на пярэднім плане) і **Н. Калюта.**

Тэкст і фота **С. Прасняка.**

## Памяці В. Харужай

Нядаўна ў Пінску адбыўся шматлюдны мітынг працоўных, школьнікаў і піянераў горада, прысвечаны адкрыццю мемарыяльнай дошкі слаўнай дачцы Камуністычнай партыі і Ленінскага камсамола, Герою Савецкага Саюза Веры Харужай. Дошка ўстаноўлена на будынку Пінскага гаркома партыі і гарвыканкома, дзе ў 1939—1941 гадах у Пінскім абкоме партыі працавала слаўная дачка беларускага народа Вера Захараўна Харужая.

Рашэннем гаркома партыі і гарвыканкома вуліца Камунальная, дзе да Вялікай Айчыннай вайны быў Пінскі абком партыі, перайменавана ў вуліцу Веры Харужай. Слаўнае імя Веры Харужай носіць і піянерская дружына школы № 1 Пінска.

Пінскі краязнаўчы музей вядзе навукова-даследчую работу, звязаную з жыццём і дзейнасцю Веры Захараўны Харужай.

**В. БАРАВІКОЎ.**

## Фестываль кінафільмаў

Працоўныя Лунінецкага раёна цікавяцца дасягненнямі навукі і тэхнікі, сельскай гаспадаркі ў нашай краіне. Раённы аддзел культуры арганізаваў фестываль хранікальна-дакументальных фільмаў. Вялікую цікавасць у гледачоў выклікалі, напрыклад, фільмы «Рукамі людзей», «У свеце высокіх ціскаў», «Дом на праспекце».

Для вясковых гледачоў былі прадстаўлены кінафільмы «Расказ аб шоўкавай нітцы», «Механізацыя грузаразгрузачных работ», «Механізацыя жывёлагадоўчых ферм».

Паказ кінафільмаў суправаджаўся лекцыямі.

**Ф. ЛАПАНІК.**

ТРЫБУНА перадавога вопыту

# ПОДЫХ НОВАГА

Іншы раз чуеш скаргу: не паважае свой клуб або бібліятэку старшыня калгаса, не хоча дапамагаць, не знаходзіць часу зайсці ва ўстанову культуры. Як правіла, скардзіцца той клубны або бібліятэчны работнік, які далёкі ад спраў свайго калгаса.

Пераважная большасць работнікаў клубаў і бібліятэк нашага раёна карыстаецца павагай у насельніцтва і ў кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў. Бо ў іх яны бачаць сваіх верных памочнікаў. І вельмі часта рабочыя і калгаснікі, адзначаючы свае працоўныя справы, гавораць і пра работнікаў культуры.

На семінарах і нарадах мы пастаянна напамінаем, расказваем загадчыкам клубаў і бібліятэк, як будаваць сваю работу ў цеснай сувязі з калгаснай і саўгаснай вытворчасцю.

Пасля апублікавання сямігадовага плана ў клубах і бібліятэках былі вывешаны фотамантажы і дыяграмы, прысвечаныя кантрольным лічбам сямігодкі краіны, рэспублікі, раёна і калгаса. У раёне на гэтую тэму было прачытана больш 200 лекцый і дакладаў, арганізоўваем тэматычныя, літаратурна-мастацкія вечары, вечары пытанняў і адказаў.

Летась амаль ва ўсіх сельгасарцелях мы праводзілі тэматычныя вечары «Наш калгас у сямігодцы». На такім вечары ў калгасе «Шлях да камунізма» выступілі старшыня праўлення, бухгалтар, аграном, заатэхнік, дырэктар школы і загадчык клуба. Кожны з іх расказваў аб перспектывах развіцця калгасаў за сямігодку.

Мы друкуем маляўнічыя плакаты, на якіх паказаны сацыялістычныя абавязацельствы раёна, а таксама макеты плакатаў «За што змагаецца наш калгас (саўгас) у 1961 годзе», «Нашы рубяжы на месяц» і шмат іншых.

Прапагандуюцца абавязацельствы і ў плакатах пра ініцыятараў спаборніцтва, якія абавязаліся дамагчыся найбольш высокіх паказчыкаў у вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі. Свінарка калгаса імя Сталіна Лукер'я Данілаўна Чайкова, па прыкладу знатнага свінара Чыжа, узялася адкарміць 1 000 галоў свіней. Маляўнічы плакат з яе партрэтам і абавязацельствамі быў вывешаны ва ўсіх брыгадах калгасаў, аддзяленнях саўгасаў, у культасветустановах, чырвоных кутках раёна. Лукер'я Чайкова паспяхова выканала свае абавязацельства. Летась яна адкарміла 1 100 галоў свіней сярэдняй вагой па 90—100 кілаграмаў.

Такія ж плакаты былі выпушчаны і пра лепшых кукурузаводаў, работнікаў жывёлагадоўлі калгасаў і саўгасаў раёна.

Клубы і бібліятэкі выпускаюць «Лісток славы». Гэты лісток дапамагае нам прапагандаваць вопыт перадавікоў калгаснай вёскі.

Мы праводзім таксама эстафеты культуры, у час якіх падводзім вынікі спаборніцтва. У іх удзельнічаюць усе кіраўнікі калгасаў, саўгасаў, сакратары партыйных арганізацый, спецыялісты сельскай гаспадаркі, перадавікі і наватары сельскагаспадарчай вытворчасці. У час апошняй эстафеты дэлегацыі перадавых калгасаў выязджалі ў адстаючыя арцелі. Асноўная размова ў час гэтых паездак ішла аб укараненні перадавых метадаў працы і аб выяўленні і ліквідацыі недахопаў. Трэба сказаць, што эстафета дала вялікі штуршок механізацыі працаёмкіх працэсаў у жывёлагадоўлі і паляводстве.

Нашы ўстановы культуры выпускаюць сатырычныя газеты «На рогі», «Джала», «Курам на смех». Летась выйшла 679 нумароў. Аб дзейснасці сатыры гаворыць такі факт. Калгасны механізатар Ш. п'янстваваў, тыднямі не працаваў. Пасля некалькіх выступленняў сатырычнай газеты Ш. перастаў п'янстваваць, пачаў добра працаваць. Праўленне калгаса прызначыла яго брыгадзірам механізатараў.

Ход выканання сацыялістычных абавязацельстваў прапагандуецца і ў выступленнях агітмастацкіх брыгад. У раёне працуюць 32 калектывы самадзейнасці, у якіх займаецца каля дзвюх тысяч чалавек. За мінулы год яны паставілі 480 канцэртаў. Агітбрыгады паказваюць «жывую» газету «Наш тэлевізар», у якой расказваецца пра тое, як выконвае свае абавязацельствы калгас, яго брыгады.

Ансамбль песні і танца калгаса імя Сталіна паставіў музычна-мастацкую кампазіцыю «Багаты і слаўны калгас». У гэтай кампазіцыі праз песні, танцы, вершы расказваецца аб справах перадавой у раёне гаспадаркі, яе выдатных людзей.

Летась наш раён даў 301 цэнтнер малака на сто гектараў сельгасугоддзяў і заняў першае месца ў вобласці і другое ў рэспубліцы. Вялікую дапамогу жывёлаводам аказвае плакат-макет «Паказчыкі па надою малака», які запаўняецца штодзённа. На гэтым плакаце відаць, як выконваюцца абавязацельствы па надою малака кожны дзень. У «Бюлетэнях сацспаборніцтва» падэкадна адлюстроўваецца, хто ідзе наперадзе і хто адстае.

У клубах і бібліятэках раёна наладжваліся вечарысустрэчы з перадавымі даяркамі, загадчыкамі малочнатаварных ферм.

Сельскагаспадарчая арцель «Бальшавік» мела вялікія магчымасці для павелічэння вытворчасці малака, але доўгі час адставала. Сюды выехала група жывёлаводаў калгаса імя Леніна на чале з Героем Сацыялістычнай Працы Марыяй Кавалёвай. Шчырая размова адбылася паміж даяркамі дзвюх гаспадарак. У выніку справы на ферме калгаса «Бальшавік» пачалі паляпшацца.

Раён дасягнуў добрых паказчыкаў па вытворчасці малака на сто гектараў сельгасугоддзяў. Але якім шляхам дамагацца далейшага павелічэння вытворчасці малака? Галоўнае выйсце — павелічэнне пагалоўя кароў, паляпшэнне пароднасці жывёлы. Знайшліся людзі, якія гэтага не разумелі. Каб растлумачыць калгаснікам гэтае пытанне, былі арганізаваны лекцыі на тэму «Жывёлагадоўля — высокаприбытковая галіна калгаснай вытворчасці». У лекцыях на канкрэтных прыкладах расказвалася, што дае павелічэнне вытворчасці малака, як гэта выгадна арцелі і калгаснікам, што трэба рабіць для павелічэння пагалоўя кароў. Арганізацыйныя меры ў спалучэнні з палітычнай работай, праведзенай у масах, далі станоўчыя вынікі.

Сёння на фермах працуе 19 кніжных перасовак, дзевяць пунктаў выдачы кніг. У кожнай бібліятэцы ёсць рэкамендацыйныя спісы літаратуры, вітрыны кніг у дапамогу жывёлаводу.

Даяркам усіх калгасаў і саўгасаў раёна за апошнія два гады былі паказаны кінафільмы аб вопыце работы малочна-таварных ферм. Як правіла, паказ гэтых кінафільмаў суправаджаўся лекцыяй або гутаркай заатэхніка.

Аддзел культуры накіраваў у калгасы раёна кінаперасоўку дзённага кіно з карцінай аб перадавым вопыце ўтрымання свіней. Разам з кінаперасоўкай ездзіў галоўны заатэхнік райсельгасінспекцыі т. Іокаў. Перад паказам фільма ён чытаў лекцыю. Кінаперасоўка разам з лектарам пабывала ва ўсіх калгасах і саўгасах раёна. Таксама шырока дэманстраваліся кінакарціны аб вырошчванні кукурузы і іншых сельскагаспадарчых культур.

У калгасе імя Сталіна была праведзена канферэнцыя чытачоў «Адкорм свіней — галоўная крыніца павелічэння вытворчасці мяса». На гэтую канферэнцыю былі запрошаны свінаркі ўсіх калгасаў і саўгасаў раёна. Апроч выступленняў спецыялістаў калгаса, пра свой вопыт расказала свінарка-тысячніца калгаса імя Сталіна Лукер'я Данілаўна Чайкова.

У клубе калгаса імя Сталіна быў праведзен вечар кукурузаводаў. Партыйная арганізацыя і праўленне калгаса разам з саветам клуба ва ўрачыстай абстаноўцы віншавалі кукурузаводаў, якія атрымалі высокія ўраджаі гэтай культуры, ім былі ўручаны каштоўныя падарункі.

У саўгасе «Бярозкі» савет Улукаўскай сельскай бібліятэкі, параіўшыся з сакратаром партбюро саўгаса т. Філонавым і аграномамі, вырашыў правесці тэматычны вечар аб ролі мясцовых і мінеральных угнаенняў. Да вечара быў падрыхтаваны плакат «Угнаенні — важны рэзерв павышэння ўраджайнасці». Вечар быў змястоўны і карысны. Цяпер у саўгасе значна лепш ідзе нарыхтоўка і вывазка ўгнаенняў.

У раёне ёсць 18 брыгад, якім прысвоена званне калектываў камуністычнай працы. У калгасах імя Урыцкага і «Перамога» ўсе даяркі — члены брыгад камуністычнай працы — актыўныя ўдзельнікі самадзейных калектываў. Брыгадзір даярак брыгады камуністычнай працы калгаса імя Урыцкага т. Сцяповікава — член савета клуба. Ніна Коўзік—брыгадзір такой жа брыгады калгаса «Перамога» — член лектарскай групы пры Красненскім клубе.

У Чкалаўскім сельскім клубе вусны часопіс быў спецыяльна прысвечаны лепшым людзям саўгаса — ударнікам камуністычнай працы. А ў Прыборскім сельскім клубе цікава прайшоў тэматычны вечар «Імі ганарыцца наш калгас», у Мільчанскім клубе — тэматычны вечар «Слава ўдарнікам камуністычнай працы — смелым разведчыкам будучыні» у гонар брыгады Ніны Коўзік. Цікава прайшоў дыспут «Хто не працуе — той не есць». У гэтай жа сельгасарцелі былі праведзены два тэматычныя вечары «Каб добра жыць — трэба добра працаваць» і «Лепшыя людзі нашага калгаса».

Улукаўскі сельскі клуб і бібліятэка мінулай восенню правялі баль-выстаўку «Залатая восень». Зала клуба была прыгожа афармлена. Пад гукі музыкі праводзілася ўшанаванне перадавікоў саўгаса, у гонар іх выконваліся песні, танцы. Літаратурны гурток Улукаўскай бібліятэкі падрыхтаваў вершы, якія ўслаўляюць выдатныя справы працаўнікоў саўгаса.

Цікавыя вечары праводзіць савет Яромінскага клуба сумесна з праўленнем калгаса імя Сталіна. Тут былі праведзены вечары жывёлаводаў, кукурузаводаў, механізатараў. На гэтых вечарах выступае клубная самадзейнасць.

1 студзеня г. г. быў праведзен навагодні баль перадавікоў сельскай гаспадаркі раёна.

Сёлета работнікі культуры нашага раёна правядуць рад мерапрыемстваў па прапагандзе рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС. Эстафета культуры пад дэвізам «Чым вы сустракаеце XXII з'езд КПСС» пройдзе па ўсіх калгасах і саўгасах нашага раёна. Эстафета прадугледжвае праверку таго, як калгаснікі выконваюць узятыя абавязацельствы на трэці год сямігодкі, як прапагандуецца і ўкараняецца вопыт перадавікоў.

У раёне рыхтуецца новая наглядная агітацыя, у якой будуць шырока адлюстраваны абавязацельствы калгасаў і калгаснікаў.

У кожным клубе будзе праведзен вечар — «З чым ты сустракаеш XXII з'езд КПСС», на якім выступяць перадавікі калгаснай і саўгаснай вытворчасці, ударнікі камуністычнай працы.

10 бібліятэк нашага раёна ў гонар з'езду партыі абавязаліся давесці кнігу да кожнага пісьменнага жыхара сваёй вёскі. Кожны сельскі калектыў мастацкай самадзейнасці стварае агітбрыгаду, якая будзе абслугоўваць працаўнікоў вёскі ў дні падрыхтоўкі да выбараў у мясцовыя Саветы, а пазней — у час веснавых палявых работ.

Работнікі ўстаноў культуры раёна прыкладуць усе намаганні да таго, каб, выкарыстоўваючы разнастайныя формы і метады культурна-масавай работы, садзейнічаць паспяховаму выкананню плана трэцяга года сямігодкі, дастойна сустрэць XXII з'езд КПСС.

**Я. РУМАНОЎСКІ,**
**загадчык аддзела культуры Гомельскага райвыканкома.**

# ПРАВА НА ЖЫЦЦЁ

На выстаўку прыйшоў глядач. Каля адной з жанравых карцін ён выпадкова знаёміцца з мастаком. Мастак хоча паслухаць водгук аб сваім новым творы, прысвечаным працоўнаму жыццю рабочых ліцейнага цэха завода. Карціна выклікала нездавальненне. Аўтар спрабаваў пераканаць свайго апанента ў тым, што ён вельмі добра ведае матэрыял, пакладзены ў аснову палатна, што ў карціне адлюстравана жывая праўда. Але глядач застаўся пры сваёй думцы. І вінаваты, відаць, той, чыё мастацтва не дайшло да сэрца. А не дайшло яно таму, што жывапісец не дасягнуў галоўнага ў карціне, што дае ёй права на жыццё.

Бывае нярэдка так, калі мастак, спакусіўшыся тэмай, сюжэтам, пачынае паспешліва пісаць, не заўсёды ўлічваючы магчымасці сваіх выяўленчых сродкаў і ўмельства выявіць задуму ва ўсёй паўнаце. У выніку — на выстаўку трапляе незавершаная карціна, нават «сакавіта» напісаная, але пустая па зместу. У лепшым выпадку яна пратакаліруе вытворчы працэс альбо бытавую сцэну.

Прыклад карціны, у якой мастаку не было чаго сказаць, — «На Мінскай набярэжнай» Б. Няпомнячага. У ёй амаль усё палатно займае сцэна жалезабетоннай набярэжнай ракі. Каля яе відаць нібы прырослыя да сцяны рабочыя-тынкоўшчыкі. Гэта ўсё, што сказаў мастак. Прыхільнік чыстай формы можа запярэчыць, што ў ёй ёсць жывапісныя якасці. Так, каларыт — вельмі каштоўная якасць. Аднак для жанравай, як і для ўсякай сюжэтнай карціны, гэта ўсяго толькі сродак, а не мэта мастацкага твора. Маладога мастака, відаць, захапіла іменна каларытная частка сюжэта карціны і засталася па-за ўвагай ідэйна-сэнсавая якасць жывапіснай кампазіцыі.

Незакончанасць адчуваецца і ў карціне В. Савіцкага «Бульбу капаюць». Мастак не здолеў пайсці далей адлюстравання працы калгасніц, хаця карціна ў жывапісных адносінах і не пазбаўлена пэўных станоўчых рысаў. Больш удалы быў яго твор «Навальніца», добра ацэнены на мінулай выстаўцы. Нават гэтых прыкладаў дастаткова для таго, каб убачыць, як мастак становіцца пасіўным сузіральнікам быту, што нічога агульнага не мае са змястоўным жанравым жывапісам.

Глядач меў справу якраз з такой карцінай, якой не ставала сэнсавай закончанасці. Натуралістычны бытавізм яшчэ не пераадолены ў жанравым жывапісу, збядняе і стрымлівае яго развіццё.

Што хацеў сказаць мастак Х. Ліўшыц у сваёй карціне «Ткачыхі», паказваючы працу рабочай моладзі на вытворчасці? Глядач бачыць сучаснае, вялікае і абсталяванае прадпрыемства. Гэта ўжо далёка не той цэх і не тыя ткачыхі, вобраз якіх намаляваў М. Багдановіч у «Слуцкіх ткачыхах». Тут іншае жыццё і іншыя людзі. Але ў карціне, на жаль, няма выразнага вобраза савецкага чалавека з яго багатым душэўным светам. Сюжэтнае дзеянне не развіваецца далей рабочага месца маладой работніцы. Вопытны мастак не здолеў добрую тэму развіць у сюжэтнай будове жанравай кампазіцыі і праз яе раскрыць шчаслівае працоўнае жыццё савецкай рабочай моладзі. Ён абмежаваўся сузіральным паказам будзённай сцэны, спыніўся на паўдарозе да канчатковай мэты.

Калі карціна «Ткачыхі» сузіральная, дык жанравы твор А. Шаўчэнкі «У саўгасе Брылёва» многа губляе ад архітэктанічнай незавершанасці. Гэта хутчэй прыклад механічнай, чым творчай арганізацыі выяўленчых кампанентаў, чыста знешняй, каляровай ураўнаважанасці палатна. З аднолькавым акцэнтам паказаны ў ёй людзі саўгаса ў час збору фруктаў і тыя прадметы, якія іх акружаюць. Нам нічога не вядома аб іх узаемаадносінах паміж сабою, аб паводзінах людзей і характарах. Спроба жывапісца вылучыць сваю работу шляхам каларытных выяўленчых сродкаў не дала поспеху. Чаго ж не дагледзеў мастак? Для надзённай і добрай тэмы патрэбен сюжэт, а астатняе залежыць ад яго кампазіцыйнай структуры, ад архітэктонікі твора. Патрэбна такая кампазіцыйна-прадметная і каляровая арганізацыя сюжэтнага дзеяння, якая дазволіла б бачыць малюнак, поўны жыцця і дыхання залатой саўгаснай восені. Добрая тэма звялася да жывапіснага вырашэння дэкаратыўна-нацюрмортнай задачы.

Ці мае права на жыццё падобная карціна? Вядома, мае. Але тады неабходна больш выразнае размежаванне паміж нацюрмортам і жанравым творам. Кожны з іх мае свае спецыфічныя асаблівасці.

Далёка не адзінкавыя выпадкі архітэктанічнай незаконачанасці жанравых твораў, прадстаўленых на рэспубліканскай выстаўцы, калі губляецца гармонія выяўленчых сродкаў і на палатне ўзнікае выпадковасць. Недасканалая кампазіцыйная будова пазбавіла М. Манасзона магчымасці напісаць больш змястоўна карціну «Мінскі перадсвяточны». У карціне пазнаеш Цэнтральную плошчу, запоўненую мінчанамі, якія спацыруюць. На першым плане — жанчына з дзіцем і мужчына, які нахіліўся да яго, поруч жанчына пад парасонам і пажылы мужчына. На другім плане — вялікі натоўп людзей. Кожнаму з персанажаў мастак паклапаціўся даць які-небудзь занятак, набліжаючы сцэну да бытавога падабенства. Але ўвогуле не атрымалася руху і таго сюжэтнага ладу, які дазволіў уявіць малюнак сучаснага горада. Мастак раздрабніў усё, што адбываецца на палатне, на самастойныя, не звязаныя сюжэтна паміж сабою паасобныя сцэнкі.

Акрамя пасіўнага пераліку выяўленчых кампанентаў твора, варта адзначыць вяласць жывапіснага пісьма. Аднолькавая ўвага мастака адчуваецца як у напісанні чалавечага твару, так і ў падыходзе да жывапіснай падачы дзіцячай калясачкі.

Бясспрэчна, што карціна значна ажыла б ад больш смелага, эмацыянальна насычанага каларыту, які вынікае з таго, што ўсё дзеянне адбываецца на ўлонні залітай сонечным святлом гарадской плошчы.

Незавершаныя карціны належаць аматарам «размашыстага» жывапісу. Яны пішуць аднолькава шырока і густа і вялікую гістарычную кампазіцыю, і невялікі жанравы твор лірычнага характару, які, на жаль, амаль знік на нашых выстаўках, уступіўшы месца палотнам буйных памераў. Толькі задума і змест мастацкага вобраза абумоўліваюць каларыт, манеру пісьма, мадэліроўку формы жанравага твора.

Нельга поўнасцю згадзіцца з каларытным вырашэннем адной з лепшых на выстаўцы карцін Р. Кудрэвіч «Першае знаёмства». У аснову яе пакладзены пачуцці маладой настаўніцы, выкліканыя сустрэчай у ваколіцах калгаса з дзецьмі. Замест «цяжка» напісанага пейзажу з узараным полем, нізкага шэрага неба больш адпавядаў бы тонкі, ледзь улоўны, пяшчотны і пленэрны каларыт.

Карціны лірыка-жанравыя ці проста на бытавыя тэмы (розныя спатканні закаханых, сцэны з гарманістам і многія іншыя) часцей за ўсё маюць такую сюжэтную, жывапісную і кампазіцыйную структуру, калі іх змест не нясе ў сабе вялікага вобразнага абагульнення. А ў звычайнай, напрыклад, жанравай сцэне ў карціне «На бульвары» Ул. Макоўскага мы адчуваем трагічную ноту жыцця маладога рабочага і яго сям'і; і ў той жа час за гэтым жыццём уяўляецца цэлы свет — свет капіталізму з усімі яго жахамі. Або ў звычайным канкрэтным малюнку А. Пластава «Юнацтва» створаны сапраўдны паэтычны вобраз, адлюстравана выразнае адчуванне паўнаты і шчасця нашага жыцця.

Захапленне пустымі, нязначнымі тэмамі, якія не нясуць у сабе глыбокага ідэйна-вобразнага зместу, вядзе ў канчатковым выніку да прафесіянальнай дэкваліфікацыі, адводзіць мастака ад сур'ёзных задач савецкага бытавога жанра. Само сабой зразумела, што ў творчасці кожнага мастака не заўсёды бываюць шэдэўры і глыбока змястоўныя творы. Такіх якраз меней. Жанравых жа твораў, якія адлюстроўвалі б і сцвярджалі станоўчыя з'явы нашага грамадскага і асабістага быту вельмі мала.

У савецкім жанравым жывапісу вялікае месца займаюць тэмы працы. Прысвячаючы творы працоўным поспехам калгаснікаў, рабочых, інтэлігенцыі, мастакі ствараюць хвалюючыя вобразы, у якіх бачны сам народ.

Колькі магчымасцей у мастака паказаць адроджаную калгасную вёску ў такой тэме, як святкаванне традыцыйнага дня дажынак ва ўмовах калектыўнага сацыялістычнага жыцця. Гэта натхніла, як відаць, А. Шыбнёва напісаць карціну «Радасць ураджая. Дажынкі». У яе сюжэтную аснову пакладзена сцэна віншавання камбайнера з выпадку заканчэння ўборкі ўраджаю. Галава і грудзі камбайнера ўпрыгожаны вянкамі з каласоў і палявых кветак. Гэтая фігура — кампазіцыйны цэнтр карціны. Вакол камбайнера — жнеі. На іх тварах вясёлыя ўсмешкі. Аднак у гэтай сцэне адчуваецца скаванасць, і ніяк не ўявіць, што ж адбудзецца далей — у першую, другую і трэцюю хвіліны, ці ўзнікне ў гэтай сцэне шырокі малюнак шчасця народа.

Недапрацаванасць карцін — адна з характэрных адмоўных з'яў у сучасным жанравым жывапісу, якія перашкаджаюць яго далейшаму паспяховаму развіццю.

Выстаўка паказвае, што яшчэ многа трэба зрабіць для ператварэння жанравага жывапісу ў магутны сродак ідэйна-эстэтычнага выхавання гледачоў.

**П. ГЕРАСІМОВІЧ.**

---

Алесь ЗВОНАК.

# НОВЫЯ ВЕРШЫ

## СТУДЗЕНЬ

Далеч марозная
сонцам няяркім падсвечана,
Плечы зямныя
ухутаны ў белы паркаль,
Срэбнымі іскрамі шэрані
дрэвы расквечаны,
Быццам бы студзень рассыпаў
празрысты крышталь...

Звонкая ціша —
ні спеваў птушыных,
ні шэлесту,
Льецца па жылах
пушыстай зімы халадок.
Бачыш, як шчокі дзяўчыніны
заружавеліся,
Мілыя кудзеркі
лёгкі апушыў сняжок?

Бачыш, як юныя лыжніцы,
поўныя зграбнасці,
Міма праходзяць,
і плешчацца гоман і смех...
Так вось юнацтва ружовае
ў сэрца пракрадзецца,
Поўнае шчасця
і гэтых няхітрых уцех...

Так разгаворыцца раптам
прырода-маўчальніца,
Толькі кране яе
подых паўднёвых вятроў,
Толькі напоўніцца
першая светлая раніца
Клёкатам радасным
мілых гасцей-жураваў...

Так вось зямля
на зыходзе калючага студзеня
Поўніцца снамі
аб сіняй пявучай вясне,
Каб распрастацца ўсёй сілай,
ад спячкі абуджанай,
Краскамі ўсімі жыцця
зашумець, заквітнець...

Так вось у немасці студзеня
бачацца ўводдалі
Гулкай вясны
шматгалоссе і гоман, і шум,
Быццам пачуў
маладосці ажыўшае водгулле,
Быццам зірнуў
у глыбокую студню-душу!

## Мы з табою, Афрыка!..

За горамі, за морамі,
за сінню Адрыятыкі,
За пусткамі Сахары,
краіна сонца—Конга!..
Мы чуем крык гартанны,
мы чуем стогны Афрыкі,
Мы чуем рокат бою,
глухія ўдары гонга...

Наш грозны гнеў, ляці
нястрыманаю бураю
Да тых, хто рве на часткі
тваё жывое цела,
Хто чорную душу
схаваў пад белай скураю,
Хто ў сэрца тваё, Афрыка,
няволі нож нацэліў!

Крадуцца, як шакалы,
майстры заплечнай практыкі
Да сэрца твайго мужнага,
па праву беззаконня...

Ты выстаіш,
пазнаўшая свабоды шчасце,
Афрыка,
Ты выстаіш,
скрываўленае, змучанае Конга!

Прадажны містэр Хам
са звычкамі сцярвятніка
Занёс руку нячыстую
над лепшым тваім сынам.
Ім не зламаць твой дух,
разбуджаная Афрыка,
Ім не надзець ярмо
ізноў табе на шыю!

Народны гнеў змяце
ганебнай змовы графікі
Пад вокліч баявы,
пад гул прызыўны гонга.
З табой мы, чорны люд,
з няволі ўстаўшай Афрыкі,
З табой мы, мужны люд
пакутлівага Конга!

---

# У РАБОЧЫМ КЛУБЕ

**У старым парку пасёлка Альбярцін Слонімскага раёна ўзвышаецца прасторны светлы будынак клуба кардоннай фабрыкі. І ўдзень і ўвечары тут ажыўленне. Сюды прыходзяць моладзь і пажылыя рабочыя, члены іх сем'яў. Праўленне клуба стараецца як мага лепш і цікавей арганізаваць адпачынак рабочых. У клубе праводзяцца тэматычныя вечары, канферэнцыі чытачоў, дэманструюцца кінафільмы, чытаюцца лекцыі і даклады на розныя тэмы. Пры клубе працуе ўніверсітэт культуры.**

**Вялікую ўвагу кіраўнікі клуба аддаюць прапагандзе сацыялістычнага спаборніцтва рабочых фабрыкі. У фае вывешаны партрэты перадавікоў і наватараў вытворчасці. Кожнае 15 чысло праводзяцца вечары, прысвечаныя ўручэнню пераходнага Чырвонага Сцяга фабрыкі цэху, які заваяваў першае месца ў мінулым месяцы.**

**Вялікай папулярнасцю ў рабочых карыстаецца мастацкая самадзейнасць. Пры клубе працуюць хор, аркестр народных інструментаў, драматычны гурток.**

**На здымках:**

1 (злева). У бібліятэцы клуба. Пенсіянер **В. Афонін** падбірае сабе кнігі.

2 (справа ўверсе). Члены драмгуртка перад выхадам на сцэну. На пярэднім плане — турбініст ЦЭЦ Аляксандр **Мажэйка** і тэхнолаг Надзея **Качарова.** На другім плане — работніца цэха шырспажыву ўдарніца камуністычнай працы Людміла **Саліта** і тэхнік-электрык Барыс **Яскевіч.**

3. Старшыня праўлення клуба Канстанцін **Шпакоўскі** з удзельнікамі аркестра народных інструментаў — станочніцай цэха шырспажыву Лідзіяй **Мацвеевай** і рабочым сыравіннага цэха Антонам **Сончыкам.**

Фота **А. Перахода.**
Фотахроніка БЕЛТА.

---

# *75-годдзе А. Туранкова*

**Музычная грамадскасць рэспублікі адзначыла 75-годдзе з дня нараджэння аднаго з буйнейшых кампазітараў Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтва БССР А. Туранкова, які пакінуў нам у спадчыну вялікую колькасць твораў самых разнастайных жанраў. У сувязі з гэтай датай праўленне Саюза кампазітараў наладзіла юбілейны вечар. Ва ўступным слове народны артыст СССР Р. Шырма ахарактарызаваў жыццёвы і творчы шлях А. Туранкова.**

**Потым адбыўся цікавы канцэрт з твораў А. Туранкова. У ім прагучалі дзве скрыпічныя п'есы — «Раніца» і «Накцюрн» (саліст Л. Гарэлік), віяланчэльныя мініяцюры (салістка Р. Вайншток) і раманс для скрыпкі, кларнета і фартэпіяна (выканаўцы Л. Гарэлік, Я. Лосеў і Т. Міянсарава).**

**З вакальных твораў А. Туранкова прысутныя праслухалі рамансы «Мяцеліца» і «Вясна прыйдзе», арыю Надзейкі з оперы «Кветка шчасця», якія праспявала салістка радыё Маргарыта Марозава. Студэнтка — выпускніца Мінскага музычнага вучылішча імя Глінкі Элеанора Зігер вельмі музычна, з настроем выканала раманс «Явар і каліна» і беларускую народную песню «Як памерла матулька» ў апрацоўцы А. Туранкова. Салістка радыё Вольга Фурс праспявала арыю Марыны з оперы «Яснае світанне», беларускую народную песню «Прайшло лета» і песню «Вясельны каравай». Прыемным было таксама выступленне ўдзельніц самадзейнага вакальнага гуртка з трактарнага завода Э. Барчук і Р. Бяссмертнай, якія выканалі дуэт «Кукавала зязюлька» з «Яснага світання». Спевакам добра акампаніравалі піяністкі Т. Міянсарава і Я. Марозава.**

**Усе, хто прысутнічаў на вечары, прысвечаным 75-годдзю з дня нараджэння А. Туранкова, былі ўзрушаны яго музыкай, вельмі шчырай, напеўнай, сагрэтай сапраўднымі чалавечымі пачуццямі.**

---

# Гэта не к спеху

У газеце «Літаратура і мастацтва» за апошні час з'явіліся два артыкулы на адну тэму. У першым артыкуле «Стварыць музей народнага быту» А. Мартынаў паставіў гэтае пытанне, у другім—«Так, музей народнага быту патрэбны» Ул. Іваноў падтрымаў А. Мартынава.

Я не магу падзяліць іх думку.

Што значыць адкрыць музей? Гэта значыць затраціць вялікія сродкі на будаўніцтва, утрыманне персаналу і г. д. Ніхто, вядома, не скажа, што музей—дрэнная справа і што ён не патрэбны. Але няўжо ў нас мала музеяў і нельга пакуль што пачакаць з гэтым, а экспанаты па этнаграфіі паказаць у існуючых музеях.

Я бываю ў вёсках, бачу і адчуваю, колькі яшчэ не хапае школьных памяшканняў, памяшканняў для сельскіх клубаў і г. д. Ды ці мала яшчэ, можна сказаць у карысць больш мэтазгоднага выкарыстання народных сродкаў.

Музей народнага быту цяпер— празмерная раскоша. Замест гэтага варта яшчэ лепш папоўніць і аздобіць тыя музеі, якія ёсць у нашых абласных ды і раённых цэнтрах. Завезці б туды ўсе тыя экспанаты, якія ляжаць на складах. Навошта ім там пыліцца? Хай на іх паглядзяць шырокія масы людзей. У абласны або раённы музей значна лягчэй дабрацца, арганізаваць экскурсію, паход і г. д. Калі ж не хопіць унікальных экспанатаў, то можна зрабіць копіі з іх, рэпрадукцыі, фотавітрыны і г. д. і паказаць усім жадаючым. Ад гэтага будзе дзве карысці: і сродкі сэканомлены (і пушчаны на больш пільныя патрэбы), і з бытам (мінулым) нашага народа пазнаёміцца значна большая частка людзей.

Пройдзе, час, будуць задаволены самыя пільныя патрэбы насельніцтва, тады можна будзе і такі музей (а магчыма і лепшы—жыццё падкажа) адкрыць.

**Л. ВАЎЧКОЎ,**
**настаўнік Старасельскай васьмігадовай школы Рагачоўскага раёна.**

---

# ГЛЫБЕЙ РАЗУМЕЦЬ СУЧАСНАСЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).**

ідэйныя разыходжанні. І толькі праз трынаццаць год, калі абое ўжо звязаны сем'ямі, яны сустракаюцца, каб зноў разыйсціся. Вось і ўсе нешматлікія падзеі, апісаныя ў аповесці.

Але не толькі праблемы кахання самі па сабе цікавяць пісьменніка ў «Апошняй сустрэчы». У тым і справа, што любоўны сюжэт дапамагае сацыяльнай характарыстыцы вобразаў. Як сур'ёзны, сталы пісьменнік, Я. Брыль умее адкрыць здавалася б у вельмі прыватным выпадку вялікую і хвалюючую праўду жыцця.

Відаць, нельга правільна зразумець вобраз Лёні Жывеня без выяўлення прычын, чаму ён пакахаў Чэсю, панскую дачку. Калі яго цягнула «чужая, невядомая краса», як пісаў у сваім артыкуле Ул. Карпаў, то тады сапраўды трэба ўсумніцца ў тыповасці гэтага вобраза. Толькі Я. Брыль піша аб нечым зусім іншым.

Лёня пачаў сустракацца з Чэсяй восенню 1939 г., калі ў Заходнюю Беларусь прыйшла Чырвоная Армія. Чаму ён пакахаў яе? Такое пытанне можа здацца трохі недарэчным. Ці мала за што можна пакахаць дзяўчыну? Хоць бы за тое, што была прыгажуняй. Але, вядома, не толькі прыгажосць Чэсі зачаравала Лёню Жывеня. Відаць, у вёсцы былі і іншыя прыгожыя дзяўчаты, якіх ён бачыў часцей сваёй абранніцы. І ўсё ж такі ён пацягнуўся да яе. Наўрад ці адыграла сваю ролю пры гэтым жаданне «сцвердзіць толькі што знойдзеную роўнасць» (Ю. Канэ). З тэксту аповесці не відаць, што падобны псіхалагічны момант зрабіў рашаючы ўплыў на паводзіны героя. Наадварот, у творы выразна паказана, як замацаванне гэтай роўнасці суправаджалася непазбежнай сялянскай помстай: у панскім доме на вечарынцы адзін з хлопцаў знарок клаўся на панскі раяль. І калі Лёня Жывень не быў здольны на падобную дэманстрацыю сваёй роўнасці, бо меў ужо развітае пачуццё тактоўнасці і пэўную культуру, то гэта зусім не азначае, што ён ставіўся да паноў інакш, чым яго аднавяскоўцы. Ён быў сялянскім сынам, які добра ведаў, што такое панскі прыгнёт, таму, як і ўсе сяляне, адмоўна ставіўся да Расіцкіх. Пры такіх узаемаадносінах наўрад ці магло ўзнікнуць у Лёні чыстае і глыбокае пачуццё да Чэсі, каб ён не вылучаў яе з усіх Расіцкіх. Ён бачыў у ёй не толькі прыгожую дзяўчыну, але і семінарыстку. Чаму гэта было важным для яго, лёгка зразумець, калі ўспомніць, што сам Лёня быў хлопец «не толькі спраўны, але і «абгладжаны»: кніжкі чытаў, ладзіў у вёсцы самадзейныя спектаклі, кончыў усё ж такі сямігодку». І не дзіўна таму, што на вечарынках яму асабліва падабалася Чэся, якая прыбіралася ў белую семінарскую кофтачку і сінюю семінарскую спадніцу. Дададзім яшчэ да гэтага, што Чэся найбольш апаэтызавана ў творы якраз у той момант, калі яна вяртаецца на веласіпедзе з семінарыі.

Такім чынам, Лёня мог знайсці ў вёсцы прыгожую дзяўчыну, але яна не магла так лёгка, як Чэся, увайсці ў яго мару аб будучым жыцці — прыгожым, поўным, шчаслівым, да якога ён імкнуўся праз веды і культуру і якое стала зусім блізкім з прыходам Чырвонай Арміі. Ён ужо даніў адукацыю. Вось чаму Лёню патрэбна была менавіта Чэся, а не хто іншы.

Адносіны Лёні Жывеня да сям'і Расіцкіх — гэта ацэнка, ацэнка народная іх жыццяздольнасці ў новых грамадскіх умовах. У выніку важных гістарычных падзей у народным жыцці перад імі зачыніліся дзверы ў будучыню, усе яны засталіся без спраў: бязвольны гаспадар маёнтка з адзінай моцнай схільнасцю — выпіць чарку, гаспадыня з прэтэнзіямі на захаванне дваранска-арыстакратычных традыцый, сыны з іх ваяўніча-эксплуататарскай мараллю, дочкі-абывацелькі. І толькі душу Чэсі не так моцна закрануў мараль ўпадак сям'і. Ён не шукаў у ёй нічога панскага, а таго, можа, агульначалавечага, прывабнага, высакароднага, што магло захапіць яго душу. Вось чаму Лёня Жывень, селянін, мог прыняць духоўна з сям'і Расіцкіх толькі Чэсю. Яму здавалася, што ўжо адзін удзел яе, «яснавяльможнай» паненкі, у вясковых вечарынках гаварыў, аб многім, у першую чаргу аб сімпатыях да простых людзей.

Адсюль відавочна, што разважанні аб нейкім захапленні галоўнага героя аповесці «чужой красой» нічым не апраўданы. Лёня Жывень, пакахаўшы Чэсю, не рабіў уступак чужому свету, не грэбаваў сваім, родным.

Праўда, у Чэсі не было яшчэ патрэбнай шырыні поглядаў, і яна не стала тым сапраўдным інтэлігентам, сімпатыі якога належаць працоўным. Яна не пераадолела сямейнай коснасці, не здолела прызнаць праваты народа наогул. Яна паддалася ўплыву старэйшых у сям'і.

Вайна яшчэ больш аддаліла Чэсю ад Лёні, які пайшоў у партызаны, каб змагацца за шчаслівае жыццё. Яны сустракаюцца і ў час вайны. Аднак новага збліжэння не атрымалася. Калі б гэтаму магло дапамагчы адчуванне роўнасці, то, здаецца, больш спрыяльнага моманту і чакаць не трэба. Расіцкія ў вайну канчаткова апусціліся ў быце да ўзроўню сялян. Яны носяць сялянскую адзежу і вешаюць яе па-мужыцку на звычайны цвік, частуюць партызан самагонкай і салам. На жаль, стала іншай Чэся, і Лёня адчувае гэта. Яна поўнасцю схілілася на бок братоў, на бок тых сіл, супраць якіх змагаўся Лёня, імкнучыся да новага жыцця. Ён робіць намаганні выратаваць яе як чалавека, грамадзяніна, падказваючы правільны шлях, але яго намер не ўдаецца. Чэся канчаткова адыйшла ў мінулае. Так рэчаіснасць разбіла ілюзію Лёні Жывеня, што будучае яго, сялянскага хлопца, можа неяк супасці з імкненнямі Чэсі Расіцкай.

Але чаму тады Лёня Жывень ідзе насустрач Чэсі праз трынаццаць год, калі яна прыехала турысткай з-за мяжы? Чэся не змянілася ў лепшы бок, наадварот. У час вайны яна слепа ішла за братамі, а цяпер стала актыўным абаронцам іхніх поглядаў. Лёня Жывень зноў пацягнуўся да Чэсі успомніў сваё мінулае таму, што, па-першае, за доўгі час прытупіліся крыўды, прычыненыя яму, а па-другое, і гэта галоўнае, сталася так, што Лёня не атрымаў ад жыцця ўсяго таго, што зрабіла б яго шчаслівым. Лёс звёў яго з дзяўчынай, якая стала яго жонкай, але жонкай нялюбай. Акрамя таго, яго крыўдзілі фальшывымі абвінавачваннямі. Знешне як быццам ён змірыўся са сваім становішчам, але ў глыбіні яго душы пастаянна хаваўся сум па сапраўднаму жыццю. Ён ідзе ў абдымкі свайго мінулага, пакуль не думаючы, куды гэта можа прывесці. Ён ідзе да Чэсі, бо «холадна» жылося яму дагэтуль.

Які ж адказ дае пісьменнік на пытанне, ім самім пастаўленае ў творы? Дзе яго герой знойдзе шчасце— ці на шляху да мінулага, куды кліча яго Чэся, ці ў сучасным? Як пісьменнік сацыялістычнага рэалізму, як пісьменнік глыбока партыйнага разумення жыцця, Я. Брыль дае выразны адказ: толькі вернасць сучаснаму дасць яму магчымасць жыць, працаваць, спадзявацца, быць чалавекам. Адышоўшыся хоць трохі назад, за Чэсяй, ён абавязкова сустрэнецца са старымі парадкамі, з гаспадарамі маёнткаў, кулакамі, эксплуатацыяй — з усім тым, супраць чаго ён змагаўся. І гэты вывад фармулюецца ў творы не рацыяналістычна, не ў агульных словах, не ў фразе. Вывад вынікае сам сабой — з сітуацый, з логікі ўзаемаадносін герояў. Калі Лёня Жывень знаходзіцца ў пакоі Чэсі, яны — гаспадыня маёнтка Расіцкіх і кулак Мукасей— тут жа, зусім блізка, толькі за сцяной, са сваёй мараллю, з недаверам да чалавека, з жаданнем нажыцца за кошт іншых. Ён чуе іх галасы. Блізкая прысутнасць гэтых тыпаў пры сустрэчы з Чэсяй — сімвалічныя для Лёні Жывеня. І калі ён уцякае з пакою Чэсі, то ўцякае і ад усяго мінулага, якое напалохала яго сваім жывым прывідам.

Дык як можна пасля гэтага вінаваціць пісьменніка ў адрыве ад сучаснасці, у захапленні вузка-інтымнымі праблемамі, калі лёс галоўнага героя не толькі раскрывае грамадскі сэнс перажытага, але і вучыць, засцерагае, падказвае? Ідэя аповесці Я. Брыля вельмі дакладная. А хіба ў характары Лёні Жывеня няма рысаў нашага сучасніка? Ён — моцная натура. Яго сіла — у здольнасці адчуваць передавое ў рэчаіснасці. Менавіта дзякуючы гэтаму ён пайшоў у партызанскі атрад, выстаяў маральна перад парушальнікамі сацыялістычнай законнасці і, нарэшце, пры сустрэчы з Чэсяй атрымаў перамогу над сабой.

У новым выданні пісьменнік даў назву аповесці «Апошняя сустрэча». Аднак першапачатковая назва «Расчараванне» больш удалая і мэтазгодная. Называючы твор «Апошняя сустрэча», пісьменнік як быццам па сваёй волі прадвызначае далейшы лёс героя. А ў сапраўднасці паводзіны героя будуць залежаць ад жыццёвых абставін. Хіба ёсць гарантыя таго, што Лёня ніколі больш не адгукнецца на покліч мінулага? За даўнасцю часу зноў можа забыцца непрыемнасць сустрэчы (забыўся ж ён нават пра стрыхнін, пакінуты Расіцкімі для яго ў варэнні), і тады ён зноў будзе чакаць яе. І гэта зусім магчыма. Вось як думае Лёня пра Чэсю пасля «апошняй сустрэчы» з ёй:

«А тая, другая? Што адышлася толькі, каб потым **у зручны момант** вярнуцца ў душу тваю **неспакойным, спакуслівым** успамінам».

Акрамя таго, раз ужо адбылася апошняя сустрэча Лёні з Чэсяй, з мінулым, то можна зрабіць памылковы вывад, што цяпер не так і важна, будзе герой шчаслівы ці не, наладзіцца яго жыццё ці не наладзіцца. Ён вымушаны будзе зміryцца са сваім становішчам, бо з Чэсяй пакончана назаўсёды. Але ў тым і справа, што па логіцы характару, па логіцы самога жыцця ён можа зноў шукаць Чэсю. А трэба, каб нічога падобнага не здарылася. Гэтага хоча пісьменнік і дзеля гэтага ён напісаў аповесць.

Гэты твор Я. Брыля сведчыць, што пісьменнікі па-рознаму адгукаюцца на сучасныя падзеі. Хай будзе больш у нас твораў аб новабудоўлях, аб спадарожніках і ракетах. Але не заўсёды мастак можа раскрываць вялікі сэнс нашай рэчаіснасці толькі праз адлюстраванне знешніх прыкмет часу. Я. Брыля часта прываблівае свет чалавечых пачуццяў. Гэта вялікі свет, вельмі чулы да перадавых грамадскіх змен. Таму пісьменнік можа ў творы інтымнай тэмы раскрыць глыбокую і актуальную праўду жыцця.

**В. КАВАЛЕНКА.**

---

# Своеасаблівасць спектакля

Пасля прачытання п'есы В. Карастылёва «Веру ў цябе» застаецца дваістае ўражанне. Камедыя не прэтэндуе на вялікую глыбіню пастаўленай у ёй праблемы. Аўтар вяртаецца да пытанняў, вырашаных і ў В. Розава, і ў М. Пагодзіна, і ў творах многіх іншых аўтараў.

І разам з тым В. Карастылёў гаворыць пра знаёмыя рэчы, сваёй, уласцівай толькі яму мовай. Ён своеасаблівы не толькі ў ацэнцы з'яў, але і ў манеры падыходу да іх раскрыцця.

Чытаючы п'есу, цяжка ўявіць сабе, як жа яна будзе ўвасоблена на сцэне? П'еса тоіць мноства небяспек, якія могуць павесці рэжысёра і выканаўцаў да захаплення вонкавай формай, да страт, няхай і не складаных, але вельмі лірычных, чыстых пачуццяў, якія несумненна ёсць у п'есе.

Вось з такімі супярэчлівымі пачуццямі і думкамі ідзеш у Тэатр імя Янкі Купалы. І амаль з самага пачатку спектакля сумненні знікаюць. Трапляеш пад уплыў светлага, радаснага і шчырага мастацтва. Спектакль, створаны купалаўцамі, надаў усяму, што любіць аўтар, пераканальныя рысы.

Аўтар п'есы любіць сваіх герояў, жадае ім радасці і шчасця. І гэтую атмасферу цёплага пачуцця не толькі даносяць, але і ствараюць выканаўцы і пастаноўшчык спектакля В. Броўкін.

Глядач шчыра адказвае на гэтае імкненне тэатра, у яго застаецца добрае, прыемнае ўражанне.

Праўда, спектакль мае не толькі сяброў, але і праціўнікаў. Апошнія сцвярджаюць, што саліднаму акадэмічнаму тэатру не да твару траціць час на пастаноўку п'ес, у якіх няма глыбокіх складаных праблем і характараў. Жарт, няхай тонкі, светлы, усё ж не можа задаволіць патрабавальны тэатр. Яны памыляюцца. Мастацтва, калі яно сапраўднае, мае права на любую, нават акадэмічную сцэну. І тэатру не грэх звяртацца да розных па жанру п'ес. Тэатр імя Янкі Купалы не раз звяртаўся да вадэвілю, п'есы-жарту.

Спектакль «Веру ў цябе» — творчая ўдача тэатра. Ён карыстаецца поспехам, у ім ёсць жывыя прыкметы часу, усхваляваная паэтычнасць.

Таленавіты рэжысёр В. Броўкін здолеў разумна і ўдумліва прачытаць п'есу, знайсці верны ключ да раскрыцця яе зместу. Ён дапамог акцёрам захапіцца сваімі героямі і данесці прывабныя рысы камедыі да гледача. І калі ўжо шукаць своеасаблівасці мастацтва рэжысёра, дык яно не толькі ў цікавых, дакладных мізансцэнах і іншых знаходках, а ў першую чаргу ў паэтызацыі пачуццяў, імкненняў герояў спектакля, у іх рамантычнасці, якую правільна ўбачыў і ўвасобіў рэжысёр у гэтым сцэнічным творы. В. Броўкін ператварыў акцёраў з выканаўцаў яго задумы ў сваіх зацікаўленых аднадумцаў.

І гэта галоўнае, што надае спектаклю своеасаблівасць і тонкі каларыт. Акцёры іграюць з задавальненнем. Іх душэўны стан, творчае хваляванне захапляе.

Цяжкасць пастаноўкі спектакля ў тым, што ролей у ім усяго тры. Памылка ў выбары выканаўцаў магла б загубіць спектакль. Выбар выканаўцаў ролей варта прызнаць удалым. В. Тарасаў, Г. Арлова, М. Яроменка стварылі вобразы добрых савецкіх маладых людзей. Цяжка аддаць перавагу каму-небудзь з артыстаў. Вядома, кожны з іх мае свае рысы творчай індывідуальнасці. Але нам сёння больш хацелася б адзначыць тое агульнае, што збліжае выканаўцаў у спектаклі.

Адчуваецца вялікая зацікаўленасць ва ўсіх выканаўцаў, вернасць пачуццяў і праўдзівасць паводзін, лёгкасць, неабходная ў такім жанры, як лірычная камедыя.

Ва ўсіх акцёраў сапраўдная сцэнічная прывабнасць. Гэта ўласціва і выканаўцам эпізадычных ролей слуг — З. Зубковай, А. Фурманавай, Ул. Кудрэвічу, Г. Аўсянікаву.

Пераканальнасць, прыўзнятасць і чысціня пачуццяў робяць арганічнымі многія прыёмы рэжысуры.

Гаворачы пра спектакль, мы не задаваліся мэтай рабіць з яго эталон, узор для пераймання.

У ім мноства праяў праўдзівага, цікавага падыходу да стварэння вобраза савецкага героя ў камедыі. Ёсць вельмі ўдумлівая і яркая работа рэжысёра, якая знайшла поўнае разуменне акцёраў. А ўсё гэта вельмі важна. Чым больш трапяткое і хвалюючае мастацтва тэатра, тым больш глыбокае і ўражлівае яно. І чым часцей тэатр будзе размаўляць высокай і чыстай мовай пачуццяў, несці ў сваіх працах лірызм і светлую радасць, тым больш ён зробіць для выхавання новых якасцей у савецкіх людзей.

**В. ЗАХАРАЎ.**

